# Малітва Іны Фраловай

«Чакаю першы снег» — дэбютная кніга Іны Фраловай. Імя паэткі яшчэ мала каму вядомае, але думаю, што, прачытаўшы прапанаваныя творы, многія будуць чакаць яе новых публікацый. А публікацыі з’явяцца, бо Іна Фралова не проста піша вершы, а яна імі жыве і дыхае...

...25 ліпеня 2009 года мне патэлефанаваў мой даўні сябра паэт Алесь Клышка. Пасля размовы пра жыццё-быццё Алесь папрасіў, каб я паглядзеў вершы яго знаёмай, якая нядаўна пачала рыфмаваць, і параіў ёй, што рабіць далей. Я не адмовіўся ад сустрэчы з пачынаючай паэткай, і праз паўгадзіны да мяне на працу ў выдавецтва прыйшла маладая сімпатычная жанчына з ладнай нізкай твораў. Пазнаёміліся. Іна Фралова. Маці траіх дзяцей. Любіць паэзію. Застаўшыся ў адзіноце, я тут жа прачытаў першую старонку рукапісу: *«Царства рачное, азёрны суполкі, / Сэймы зайцовы, капусты-радоўкі, / Кветак яднанне ў палетках з падлетак, / Іх нефармальна адзенне ўлетак».* Пачытаў і астатняе, якое было стылем падобнае да працытаванага, і задумаўся: «Што ж параіць знаёмай майго

даўняга знаёмага, калі ўжо ў сваіх першых творах яна не такая, як усе, і не топчацца па пратаптаных сцежках, а шукае свае? І самае галоўнае — стварае свой свет, які напаўняе сваімі думкамі і пачуццямі». Адразу ж у маёй душы знайшлася парада: «Трэба пісаць далей!» І я гэта сказаў пры другой сустрэчы з паэткай, якая прыйшла ўжо з новымі творамі. На гэта раз мы гаварылі доўга. І мне было прыемна бачыць, што Іна разумее ўсё, што я ёй гавару пра яе вершы і наогул пра паэзію.

Сёння, успамінаючы першыя сустрэчы з Інай Фраловай, я згадваю сваё хаджэнне з першымі вершамі да Міколы Аўрамчыка ў часопіс «Маладосць». Мікола Якаўлевіч асабліва не крытыкаваў, а кожны раз знаходзіў нешта недапрацаванае ў маіх творах, і тое, што на мінулай сустрэчы было добрым, на наступнай ён ужо адкладаў убок, пазначаючы лепшыя творы сярод новых. І так было недзе года паўтара, пакуль у мяне не сабралася падборка добрых вершаў, якія і былі надрукаваны ў часопісе. Словам, як Аўрамчык вучыў мяне рухацца ў творчасці наперад, так і я дапамагаў Іне Фраловай расці ад новага верша да новага. Неўзабаве тыя першыя творы, з якімі паэтка прыходзіла да мяне на самым пачатку, яна сама забракавала. А праз нейкі час з'явіліся і першыя публікацыі Іны Фраловай у газеце «ЛіМ» і часопісе «Алеся». На сёння Іна Фралова — шчаслівы выпадак, калі таленавіты чалавек умее слухаць іншых (не блытаць з «умее слухацца») і, нават

часам чуючы рэзкую крытыку на свае новыя творы, не крыўдаваць, а старацца зразумець, што табе гавораць.

Іна Фралова шчырая ў жыцці і ў сваіх творах, таму, чытаючы вось гэтыя простыя радкі: «*Як жыла б я на свеце без гэтых бяроз, / Васількоў у духмяным пакосе, / Каб закінуў куды незгаворлівы лёс, / Як і тысячы лёсаў заносе?!*», адчуваеш іх жыццёвую глыбіню. Гэтае пытанне гучыць не толькі ад імя паэткі, але і ад кожнага з нас, хто любіць родную зямлю, родную вёску, дзе чуецца кранальны «*Пах спелых яблыкаў, прынесены з гарышча, / У час пануры, дзе мне восені шкада, / Калі ля коміна злуецца вецер, свішча, / Калі ў калюжынах са шкельцамі вада*». Не дзіўна, што Іна Фралова, як кожны таленавіты чалавек, сумняваецца ў сабе і прызнаецца: «*Не хапае дакладнасці выцертых слоў, / Ад няздольнасці душыць знямога. / І пад цяжкаю коўдрай бурштынавых сноў — / Абрываецца ў заўтра дарога...*»

Нягледзячы на ўсе ўласныя сумнівы і жыццёвыя мітрэнгі, паэтычная дарога Іны Фраловай у заўтрашні дзень працягваецца, і мы чытаем шчырае прызнанне: «*Я цябе і дагэтуль шукаю, / Аб сустрэчы штодзённа малю. / Прызнаюся, што моцна кахаю. / Прызнаюся сабе, што люблю*». А любіць Іна Фралова ўмее шчыра і аддана. І гэтае светлае пачуццё любові жыве ў кожным яе вершы, як кроў у чалавеку, якога нідзе не пакідае Вера, Надзея і Любоў. Паэтка жыве ахвярна, таму і натуральна, што яна любіць творы Ларысы Геніюш і ча-

сам у яе вершах гучаць матывы яе паэзіі, якія не перашкаджаюць Іне Фраловай заставацца сабой...

Іна Фралова — чалавек смелы, таму, відаць, і не пабаялася, ведаючы геніяльную «Малітву» Янкі Купалы і ўзяўшы за эпіграф купалаўскі радок «Я буду маліцца...», напісаць сваю малітву:

Я буду маліцца штораз да паўночы:
Каб дзетак малых мінаваў лёс сірочы,
Каб крочылі людзі сваімі шляхамі,
Па белай зямлі не пайшлі жабракамі!
Я буду маліцца за роднае слова,
Каб годнай была беларуская мова,
Каб больш не дзялілі на белых, чырвоных,
На ясных паненак, на смердаў прыгонных.
Удзячная буду за простыя рэчы:
За яблыню ў квецені, котку на печы,
За снежань завейны, пяшчотнае сонца,
За кожны радочак, за кожнае слоўца...

І я веру, што Іна Фралова будзе і далей сваімі вершамі маліцца за Беларусь і кожны раз у яе будуць знаходзіцца самыя шчырыя словы...

*Віктар Шніп*

◊ ◊ ◊

Адышло. Больш не вернецца цёплае лета.
Ад яго босых ног я дарэмна шукаю сляды.
А яны, быццам з яблыні белым прываблівым
цветам,
Зацярушаны снегам.
Лютуюць вакол халады.

Хто падкажа, дзе спяць патаемныя сцежкі,
І куды, і адкуль яны шумнае лета завуць?
Можа, там маладосць, што дарыла каханым
усмешкі?
Можа, мне маладосць тыя сцежкі
назад прывядуць…

# Я чакаю першы снег

Пад лістотай апалай знямеў лістапад,
Ён у цішы санлівай патоне.
І аголены ветрам, скалечаны сад
Цягне ў неба худыя далоні.
Мараслівым уедлівым поступам кроў
Мне халодзіць цяжкая трывога.
І вядзе да гасцінца маўклівага зноў
Невідушчая свету дарога.

◊ ◊ ◊

Подых восені гаркавы, палыновы
Абудзіў нарэшце залаты віхор.
Як табе да твару, горад, зыркі, новы,
Як страмкія зоры, восеньскі ўбор!
Як табе да твару сонечныя плямы,
Смугла-жоўты колер, лістапад іржы!
Ты прыгожы сёння горад, самы-самы...
На зімова-летняй залатой мяжы.

◊ ◊ ◊

Сінія-сіняя…

*У. Караткевіч*

Як жыла б я на свеце без гэтых бяроз,
Васількоў у духмяным пакосе?!
Каб закінуў куды незгаворлівы лёс,
Як і тысячы лёсаў заносе!

Не спрачаюся, многа цікавых мясцін:
Ёсць і мора, і сінія горы,
Прыгажосць палюбіў іх паэт не адзін,
І чужыя свяцілі ім зоры.

Маё ж сэрца да роднага краю гарыць,
Бы жаўрук крылцы спальвае ў леце.
І таму буду ўсім і заўжды гаварыць:
Як без гэтых бяроз мне на свеце?!

# Край мой адзіны

Край мой бялёсы, туманны, крынічны,
Вольны, як вецер у час навальнічны!

Край, як і прашчур калісьці далёкі,
Смелы, прыгожы, як лён, сінявокі!

Казачны край у палянах сунічных,
Моцны і шчодры, як колас пшанічны!

Край закалыханы ў сэрцы паэта,
Ясны, пяшчотны, як цёплае лета!

Край адмысловы, гасцінны, прыветны,
Край мой пушчанскі — напеў запаветны!

Край шматпакутны, як родная мова,
Ты ў маіх дзецях, ты — сэрца палова!

Богам мой край у чало цалаваны,
Шчыры на слова, спагадны, каханы!

Край Беларускі, крылаты, мядовы,
Рай мой салодкі, мой рай чабаровы!..

# Ёсць кропачка ў бязмежнасці сусвету

Ёсць кропачка на гэтым белым свеце,
Майго жыцця трымае паралель.
Аб ёй, маленечкай, не пішуць у газеце,
А ўлетку там шчыруе журавель.
А там мой лес, і хата каля рэчкі,
І бэз, што заглядае мне ў акно.
Даўно здзічэлыя там ля вады парэчкі
І кладка — без парэнчаў бервяно.
Уся любоў, усе мае надзеі,
Імпэт душы і Бог, вядома ж, там.
Жыццё маё там небагата на падзеі,
Там цішыня і сэрца майго храм.

# Добра дома

Цёмнагрывыя цярушыць снегам сцежкі,
Ад гасцінца я вяду сляды.
Мне суботняй раніцай усмешкі
Дорыць тут марозік малады.

У калюжынах вадзіца-верхалёдка
На аблокі зрэдку, а зірне,
Здрыганецца да расколін і салодка,
Так салодка дома пазяхне.

Даўганогія вітаюцца сасонкі,
Ціснецца бачком да сцежкі лес.
Мне б з дзяцінствам тут наперагонкі —
Сталасць крочыць мне наперарэз.

Добра дома, добра да дрыготкі!
Ведаю, на прыпечку сквірчыць…
Нават мурканне блыхастай шэрай коткі
Музыкай мне дома прагучыць!

◊ ◊ ◊

Пах спелых яблыкаў, прынесены з гарышча,
У час, калі мне ціхай восені шкада,
Калі ля коміна злуецца вецер, свішча,
Калі ў калюжынах са шкельцамі вада.

Ляжаць антонаўкі, у кошыку смяюцца.
Праз саламяны строй, цікаўныя, глядзяць.
Шчакой халоднай да далоні прыхінуцца,
Іх сэрца сціплае мне пад рукой чуваць.

◊ ◊ ◊

Кінула мне восень залатая
Даланясты ліст календара.
Ведай, восень, ты мне не чужая!
Ты мне, восень, родная сястра!
Мы аднымі думкамі спавіты,
Пераплецены дарогай сноў.
Я ў табе як яблык сакавіты,
Ты — як сэрца, што штурхае кроў.

◊ ◊ ◊

Калі вячэрняя раса
Па травах россыпам кладзецца,
А небакраю паласа
Купальскім вогнішчам смяецца.
Такой вось мройнаю парой
Зноў слова трапнае шукаю,
Каб перадаць радкоў настрой,
Які сэрцам адчуваю.

Ці вось — вяртлявы бедачок —
Ляціць кудысьці ліст кляновы.
Жыцця дае адзін глыток,
Але са шчасцем палыновым.
Тады кахаю цэлы свет,
Нябесны край рукой кранаю!
І вершаў дзіўны запавет
Як найвышэйшы дар прымаю.

Ці ўчую любых шэпт крыніц
У нёманскай глыбокай хвалі,
І згадкі казак-таямніц
Паўстануць, што малой шапталі.
І быццам птушкі пець пачнуць,
Успомніцца зноў край мне ветлы.
І думкі ў сэрцы верш гукнуць
Слязой амыты, запаветны.

◊ ◊ ◊

Летнім раннем у выцвілай світцы
Жнівень шумны дарогай лясной
Гнаў грымоты і гнаў навальніцы,
Хмарай сунуўся ён аблажной.
Па квітнеючым некалі полі
Раскідаў гаркаваты палын.
І брусніц па лагчынах даволі
Насыпаў лета шчодрага сын.
Скончыў справы да поўдня, вясёлы,
Гаманіў з раздабрэлай зямлёй.
А здалёк ужо голасам кволым
Адгукалася восень жняёй.

# Пра снег

Не хапае дакладнасці выцертых слоў,
Ад няздольнасці душыць знямога.
І пад цяжкаю коўдрай бурштынавых сноў —
Абрываецца ў заўтра дарога...
Не хачу забываць пра прывабнасць жыцця
І размах яго крылаў свабодны.
Я чакаю цябе, ратавальнік быцця —
Першы снег, малады і халодны.

◊ ◊ ◊

Як у яблыках белыя коні
Пранясуцца па роснай траве
Без прымусу пыхлівай пагоні,
Толькі воля разок пазаве.
Заблукае з учэпістым ветрам
Тая воля між шоўкавых грыў.
І з начным разліецца паветрам,
Як паводкі вясновай парыў.

◊ ◊ ◊

Прачыналіся на чорным небе астры,
На іх вейках затрымаўся бляск густы.
Нехта для суседскай маладзенькай Насты
Бэзавыя пад акном ламаў кусты.

Ну а мне спяваў праз ноч ужо апошні,
Трохі стомлены і з хрыпатцой трамвай.
Скрыгатаў ліхтар стары бездапаможны,
Бо па горадзе шалеў гуляка-май.

# Сустрэча

Як па вокнах вясковых узоры
Размалюе мароз малады,
Як узыдуць калядныя зоры,
Мы спаткаемся, дружа, тады.

Мы спаткаемся ранкам суровым,
Дзе цягнік з гаркаватым дымком
Будзіць вёсачку сонную ровам
І па рэйках у горад бягом.

Будзе сведкай святочнай сустрэчы
Перапуджанае груганнё.
Мы абдымемся моцна за плечы,
Калі станцыі край абмінём.

Зарыпяць пад нагамі сняжынкі,
Не дагледзеўшы ранішніх сноў.
Павядуць нас з табою сцяжынкі
Між заспаных сумётаў дамоў.

Як па вокнах вясковых узоры
Размалюе мароз малады,
Як узыдуць калядныя зоры,
Мы спаткаемся, дружа, тады…

# Туманы, туманы

Туманы, туманы. Ад цыганскіх кастроў
Паплылі шызакрылыя хмары.
І бушуе па жылах шалёная кроў
Пад акорды пявучай гітары!

Рабаціць у вачах ад квяцістых спадніц,
Ад бруістага лёгкага шоўку.
Павядуць за сабой песні тых чараўніц
У далёкую колісь вандроўку.

◊ ◊ ◊

Распрагу я гнядога
Дый у ноч павяду.
Скакуна маладога —
У траву-лебяду.

Хай гуляе па волі,
Ад дарог адпачне,
Не сядзець мне ніколі
На шыракай спіне.

Не скакаць да знямогі
Без дарог напралом.
Не вязаць твае ногі
Даўгавусым вузлом.

Адпушчу я гнядога,
Як на розум прыйшло,
Каля пахкага стога
Ды пакіну сядло.

Хай цугляе трывога,
А бяда абміне!
Ды не плач ты, нябога,
Не шкадуй ты мяне!

◊ ◊ ◊

Па спелым жыце назбіраю васількоў
І сінім воблакам табе іх падарую.
Ці гэта спёкай закіпае ў жылах кроў,
Ці то каханне мяне зводзіць, маладую.

Кладзецца вечар туманамі за ракой,
Туды сцяжыначка-насмешніца пабегла.
Ты абдымаеш мяне вольнаю рукой,
Бо на другой аблога кветак сініх легла.

Нам васількова пах закружыць галаву,
Таму заблудзімся на тым жытнёвым моры.
І паляцяць той ноччу кветкі на траву,
Як летуценныя на небасхіле зоры.

◊ ◊ ◊

Варажыла смаленская раніца
На ружовым світанні тады.
Ты казаў, што нічога не станецца,
Што каханню не шкодзяць гады.
Ты казаў, што для нас сакавітая,
Нібы ў казачным радасным сне,
У бурштынавых промнях спавітая
Вінаградная гронка ў акне.
Усміхаліся разам, шчаслівыя,
Бо так верылі моцна тады,
Маладзенькія і непужлівыя,
Што каханню не шкодзяць гады.

◊ ◊ ◊

Я цябе і дагэтуль шукаю,
Аб сустрэчы штодзённа малю.
Прызнаюся, што моцна кахаю.
Прызнаюся сабе, што люблю.

Што прайшло, то ніколі не прыйдзе,
Што прайшло, нам назад не вярнуць.
Не для нас сёння месяц узыдзе,
Каб не нашы прызнанні пачуць.

Але стрэнемся дзе выпадкова —
І пад маскай дзяжурнаю фраз
Пацячэ, паліецца размова
І не выдасць, бязладная, нас.

◊ ◊ ◊

Ты для мяне даўно жаданы,
Адзіны мой, салодкі мой!
Істотай стомленай чаканы
Начной гарачаю парой.
Прыемна забыцця пяшчота,
Дзе сэрцы б’юцца ва ўнісон
І вуснаў зманлівая цнота.
Чароўны СОН, салодкі СОН!

◊ ◊ ◊

Каханне стомлена над імі палыхнула,
Бы абарваўся верш ці лопнула струна.
З палёгкай сэрца адзінокае ўздыхнула.
Ён быў у роспачы, не плакала Яна.

Яна не плакала, не сыпала папрокі
За маладосць сваю, за лепшыя гады.
А за акном вясны бярозавыя сокі
Перапаўнялі край, не ведалі бяды.

І Ён таксама на паўкроку не спыніўся.
Не зразумеў, як Яе побач не стае.
Дай Бог, каб зараз у шляхах не памыліўся,
Дай Бог, каб хто другі не пакахаў Яе.

# Чужое шчасце

Заспявала лета залатое
Водбліскам купальскага агню.
Шчасце непатрэбнае, чужое
Ад сябе на досвітку ганю.

Золкім раннем да свайго парога,
Як заўсёды, я іду адна.
У цябе шырокая дарога,
А маё каханне — давідна.

За ракой Купалле патухае,
І з вачэй сплывае мой вянок.
Боль пякучы пакрысе сціхае,
Як знікае з вогнішча дымок.

◊ ◊ ◊

Я любаму вяночкаў напляту
З рамоначкаў, з цудоўных кветак белых,
І за сабой у лета павяду,
Каб яблыкаў адведаць першых спелых.

На тых рамонках будзем варажыць
І дакранацца да гарачых вуснаў.
Пялёсткамі мой вэлюм засняжыць,
І засняжыць ад белакрылых буслаў.

# Васільковая сінь-сінява

Асыпаліся зоры ў жытное,
Дзе шчэ ўчора спяваў салавей.
Сваё шчасце шукалі зямное,
Не губляючы светлых надзей.

Асыпаліся зоры, як лісце,
Залацістым ліліся дажджом,
Не знаходзячы лепшага выйсця,
Чым зямлю цалаваць капяжом.

Зарападамі дзе шчыравалі —
Там па жыце ў суквеццях трава,
Дзе каханне з нябёс апявалі —
Васільковая там сінява.

◊ ◊ ◊

Заплятаюць Бярозанькі косы,
Бо залётны буян-гастралёр,
Што расхрыстаны вечна і босы,
Пакарыў беластволых сясцёр.

Вы дарэмна чакаеце ласкі —
Ён ужо адгуляў за ракой —
І па траўні збіраеце краскі,
Што той Вецер аблашчыў рукой.

Ён заручаны з дзеўкай каханай
Пад высокай старою сасной
І пярсцёнак нясе для жаданай,
Для Яе, для Вясны маладой.

◊ ◊ ◊

Як параўнаць мне каханага з ветрыкам
свежым на волі?!
Той то асілак раз'юшаны,
то цішэй коласа ў полі.
Мой жа каханы спакойны,
Быццам па восені глеба.
Словам паважны, прыстойны.
Сведкаю будзе мне неба.

Як параўнаць мне каханага
з сонейкам зыркім на небе?!
Пройдзецца сцежкай-вяртухаю,
вечарам стыне на глебе.
Мой жа каханы гарачы.
Сэрца і ноччу палае.
Ласкам не будзе нястачы.
Сведкамі зорачкі мае.

З чым параўнаць прыгажосць яго,
можа, з высокімі зоркамі,
Тымі, што ноччу па восені свецяць
рабінамі горкімі?
Мой жа цалуе салодка.
Ён мне Купальская кветка.
Ён мне надзейная лодка.
Божухна будзе мне сведкам.

◊ ◊ ◊

Ноч купальскім агнём дагарае,
Засталося ледзь-ледзь давідна.
Нас нічога цяпер не трымае.
Твае словы — падман і мана.

Толькі змятыя сумныя травы,
Што хавалі ў гадзіны сустрэч,
Яшчэ ловяць мой позірк ласкавы,
Дый яны сыдуць з восенню прэч.

Усе словы былога кахання
Рэчка белая знесла вадой.
Іх далёкае ў сэрцы гучанне
Не чуваць за дымлявай смугой.

Ноч купальскім агнём дагарае,
Засталося ледзь-ледзь давідна.
Нас нічога цяпер не трымае.
Я, як папараць-кветка, — адна.

# Таямніца

Распусцілі бярозкі шаўковыя косы,
Паднялі, маладыя, да калень сарафан.
Каля ціхай ракі дыяментавы россып
Ім пад белыя ногі шчадруе туман.

Мне адкрый таямніцу, гарачае лета,
Да каго ты ідзеш басанож па мастку?
Можа, восень прыйшла,
што ў туманы адзета,
І цябе павядзе ў далячынь за руку.

Праплылі лета дні, зніклі з хуткай вадою.
Можа, гэта шумелі да жніва каласы?
І журацца бярозкі над шумлівай вадою,
Распусціўшы да пояса шоўк-валасы.

Мне адкрый таямніцу, гарачае лета,
Да каго ты ідзеш басанож па мастку?

Можа, восень прыйшла,
што ў туманы адзета,
І яна павядзе нас з табой за руку.

# Накувай мне, зязюлька, гадочак

Накувай мне, зязюлька, гадочак!
Не шкадуй для мяне, маладой,
З зорным россыпам радасных ночак,
Хуткіх дзён з тарапкою хадой.

Яшчэ зведаць хачу я спякотай
Холад родных гаючых крыніц
І знайсці пад апалай лістотай
Жаўтавокую жменьку лісіц.

Мне яшчэ аж да раніцы трэба
Салаўіная песня ўначы.
Каб пад сінім азораным небам
Нехта блізкі правёў па плячы.

Накувай мне, зязюлька, гадочак!
Не шкадуй для мяне, маладой.
Каб мой лёс, бы асенні лісточак,
Пакружыўся над грэшнай зямлёй.

# Жнівень

Зацалуе жнівень ліпкім павуціннем,
Зачаруе шматгалосасцю грыбоў.
Ён таксама са смяшлівым рабаціннем,
Я ад сонца, жнівень — золатам лістоў!

Каля весніц стрэнем прыгажуню-восень,
Летам бабіным захопім у палон.
Загучыць для нас бярозавая просінь
І падхопіць тэму вецер-камертон.

Пад буйным дажджом, як жнівеньскія жмені,
Загарыцца неба сполахам начным.
І мяне адну з глыбокай ён кішэні
Спелым яблыкам частуе наліўным.

Потым ляжа жнівень разам з туманамі,
Як сабака той кудлаты каля ног,
Зарапады паліюцца перад намі,
Так дзівосна, на забыты Богам мох!

# Залатая прыгажуня

Залатая прыгажуня, залатая!
Мне шкада цябе, красуня, удвая.
Непаўторная і вечна маладая,
Недалюбленая, восень, ты мая!

Не зважаеш, як спявае серэнады,
І не бачыш, як ля ног тваіх кастры
Закаханы клён, нібыта зарапады,
Асцярожна паліць да самой зары.

Прыгажуня, залатая-залатая!
Ты як водбліскі купальскага агню,
Задуменная і вечна маладая.
Дзякуй, любая, за гэту цішыню.

Ты запоўніла зямлю да небакраю
Летам бабіным, чароўнаю парой.
Твае вусны спёкай выпіты да краю,
Ты прыходзішся мне роднаю сястрой.

З лістападам ціха кружыш пад гітару,
Пад вальсок такі вядомы і стары.
Засумуеш, восень, і з табой на пару
Я праплачу аж да самае зары.

Прыгажуня, залатая-залатая!
Быццам водбліск ад купальскага агню.
Дабрадушная і вечна маладая,
Я з табою ля гасцінца пастаю.

◊ ◊ ◊

Гаварлівае лета цыганкай гуляла.
Пераходзіла рэчку, падабраўшы падол.
Я вянкоў напляла і з вадой выпраўляла,
А яна пазбірала ў свой квяцісты прыпол.

Калі ж будзе пара — адысці таму лету?
Бо распуснай красой счаравала яго,
А я — дзеўка-чаромха — ад белага цвету
Веснавою парой пакахала чаго?

Ты яго пад вярбой давідна цалавала,
З загарэлых плячэй паляцеў сарафан.
Скараспелай чарэшняй на дзень пакахала,
А мой вэлюм навечна развеяў туман.

Калі ж будзе пара — адысці таму лету?
Бо распуснай красой счаравала яго,
А я — дзеўка-чаромха — ад белага цвету
Веснавою парой пакахала чаго?

◊ ◊ ◊

Сплакалася восень залатая —
Сёння развітальная пара.
Быццам клін птушыны, адлятае
За лістком лісток з календара.

Хмурыцца, бо ведае, як скора
Пралятае птушкай маладосць.
Падалося: сябравалі ўчора,
А яна часовы толькі госць.

Плача восень. Выпіты да краю
Аксамітны, залаты сезон.
Я цябе ля весніц затрымаю,
Каб паслухаць ветру саксафон.

# Як хораша нам удваіх прачнуцца

Як хораша нам удваіх прачнуцца
У лузе летнім раначкам за хуткаю ракой!
У водар васількові апрануцца,
Пялёсткі на рамонках рваць дрыготкаю
рукой.

І з наваколлем шчасцем падзяліцца,
Трымаючы ў вачах увесь сусвет, і цалаваць,
І вусны зноў шукаць, пра ўсё забыцца!
А потым любаму прызнанні горача
шаптаць…

# Заплятаю каханню тугую касу

«Я хачу быць з табой, хай зайздросцяць
усе», —
Ахаплю сказ калючым двукоссем.
Я хачу раніцою з табой па расе
Расціраць у далонях калоссе.
Марыць разам, што прыйдуць шчаслівыя
сны
Да цябе, да людзей, да Айчыны.
Дачакацца ў халодным Сусвеце вясны.
І хваліць без усякай прычыны.
Гаварыць неўпапад, не зважаць мітусню,
Прамаўчаць, што датычыцца Бога.
І ніколі, ніколі не бачыць хлусню
Ў тых вачах, дзе блакіту так многа!
Будзем разам збіраць дзіўных гукаў красу,
Нас да зор паднімаюць арэлі.
Заплятаю каханню тугую касу,
Як радочкі кладуць менестрэлі.

# Асеннія слёзы

Да мяне ў акно пастукалася восень.
Моўчкі села з чорнай кавай за сталом.
Як мядовая бярозавая просінь
Увайшла яна ў маўклівы, сумны дом.
Так наплакаліся з ёю вечарамі,
Што да раніцы не браў гаротніц сон!
Слёзы бабскія бяздоннымі марамі
З лістападамі ліліся ва ўнісон.

◊ ◊ ◊

Паглядзі, як асмужана восень
Пад пякучаю жоўцю лістоў —
На кірпатым апаленым носе,
У мядзянай капне валасоў!

Паглядзі, на заплаканым твары
Сарамяжлівасць шэрых вачэй
Так хавае жаночыя чары —
Варажбу першабытных начэй.

Паглядзі, ёй жа п’яныя ветры
Агалілі калені на зло,
Каб каханага ў рэўнасці нетры
Безаглядна ізноў панясло.

Каб кідаў бессаромныя словы,
Прыгажуню, збянтэжаны, кляў.
Каб нікуды яе без аховы,
Запалоненую, не пускаў.

І схаваўшы свой твар пад усмешкай,
Як антонаўкі горкі апад,
Той зарослаю травамі сцежкай
Восень гоніць з жыцця лістапад.

# Першы пацалунак

Школьны дворык. Першы пацалунак.
У альтанцы, пад бярозаю старой,
Ад дажджу знайшоўшы паратунак,
Цалаваліся мы летняю парой.

Ён паліў нязведанасцю вусны,
Блізкім позіркам даверлівых вачэй.
Першы наш і цнотны, і спакусны,
Першы — з водарам тых бэзавых начэй.

# Курортны раман

На гушчы кававай мне варажыць не трэба,
На лёс злавацца сёння не з рукі.
З табой сустрэнемся і зоркамі да неба
Адправімся пад шолах хваль марскіх.
І не знайсці ва ўсім абшары паратунку
Ад той сустрэчы ў вераснёўскі дзень.
Навек каштоўным застанецца падарункам
Звычайны фотаздымак-светлацень...

# З М. Цвятаевай

Як добра, што Вы хворыя не мной.
Як добра, што хварэю я не Вамі.
І далягляд ніколі, ўрэшце, той
Не паплыве пад нашымі нагамі.
Мне падабаецца, што можна быць блазнёй,
Разбэшчанай і размаўляць вачамі,
Не чырванець удушлівай пятлёй,
Так злёгку датыкнуўшыся плячамі.

Яшчэ мне падабаецца, што Вы
Спакойна абдымаеце другую
І лёс майго імя пакуль зямны
Не псуяце за тое, што цалую…
Не Вас у тым спакуслівым агні,
Вас не кранае рэўнасная збруя.
І што ніколі ў царкоўнай цішыні
Не прапяюць над намі «Алілуя!»

Я дзякую Вам сэрцам і рукой
За тое, што не ведаючы самі! —
Кахаеце: за мой начны спакой,
За рэдкасць стрэч заходнімі часамі,
За сонца не ў нас над галавой,
За травы не пад нашымі нагамі.
За тое, што — на жаль! — Вы не са мной,
За тое, што і я — на жаль! — не з Вамі.

# 25 сакавіка

Ляцяць у свет не матылі-сняжынкі.
З апошнім тыднем крочыць Сакавік.
І ў горадзе нявесцяцца сцяжынкі,
Забыўшыся пра вечны Чаравік.
А за акном маленькай дзюбай спраўна
Малоціць абаранак верабей,
Я ўсміхнулася: нібы дзяржаўны
Працуе тут натарыус-габрэй.
Чакаюць на Карыцкага кватэры
Трамвайчыкаў вясёлых ад метро.
І галубы ляцяць, нібы з паперы,
Ратуюцца па шчылінах-зэро.
Жыццё вакол падзеямі багата,
Цікава ўсё, але вось, як на зло,
Зноў гразь дарожная, як смаляная лата,
Запырскала аўтобуснае шкло!

# Над Нямігай з’яўляюцца зоры

Апусціўся на вуліцы вечар,
Паплылі ручаём ліхтары.
Кінуў сіверу зімнага вецер —
Мінчукі паднялі каўняры.

Над Нямігай з’яўляюцца зоры,
Моцны сон ахінуў берагі.
Левы бераг там бачыць прасторы,
Што насупраць раскінуў другі.

Гэта толькі знадворку сцюдзёна
І сняжок ад марозу рыпіць.
А ў грудзях б’ецца сэрца шалёна
І ад шчасця шчымліва гарыць!

Над Нямігай з’яўляюцца зоры,
Моцны сон засцяліў берагі.
Правы бераг там бачыць прасторы,
Што насупраць раскінуў другі.

Я люблю гэты час вечаровы,
Навагодні дзіцячы настрой.
Мне званоў праваслаўных размовы
Цешаць сэрца каляднай парой.

Над Нямігай з'яўляюцца зоры,
Моцны сон ахінуў берагі.
Правы бераг там бачыць прасторы,
Што насупраць раскінуў другі.

◊ ◊ ◊

Паляцелі гусі, паляцелі,
Памахаўшы крыламі зямлі.
Быццам расказаць яны хацелі,
Як на ёй шчаслівымі былі.

Сцеляцца шляхі па белым свеце,
Але сэрца ведае адзін,
Дзе валошкі сіненькія ў леце,
А зімой дзе цёпла ад рабін.

Паляцелі гусі, паляцелі,
Памахаўшы крыламі зямлі.
Быццам расказаць яны хацелі,
Як на ёй шчаслівымі былі.

Некалі і я, як тая птушка,
У аблоках адпачну душой.
Мне жыцця абрэзаная стужка
Тут падасца шызаю смугой.

Паляцелі гусі, паляцелі,
Памахаўшы крыламі зямлі.
Быццам расказаць яны хацелі,
Як на ёй шчаслівымі былі.

А пакуль надыхацца мне трэба
Тым паветрам, паспытаць вады,
Што народзіць у крыніцах глеба,
Палічыць з зязюлькаю гады.

Паляцелі гусі, паляцелі,
Памахаўшы крыламі зямлі.
Быццам расказаць яны хацелі,
Як на ёй шчаслівымі былі.

# Беражочкі, берагі

Хвалі рэчанька глыбокая
Прынясе пад берагі.
Я сумую адзінокая,
Беражочкі, берагі.
Берагі вы мае белыя,
Горкім кменам параслі.
Маладыя ды нясмелыя,
Неразумныя былі.

Нам чужая стала сцежачка,
Травам не крануць нагі.
Уздыхаю каля ўзмежачка,
Беражочкі, берагі.
Берагі вы мае белыя,
Горкім кменам параслі.
Маладыя ды нясмелыя,
Неразумныя былі.

У туманным вечар холадзе
Стаў няўтульны, стаў чужы.
Толькі спяць нібыта ў соладзе
Беражочкі, берагі.
Берагі вы мае белыя,
Горкім кменам парослі.
Маладыя ды нясмелыя,
Неразумныя былі.

Тут з табою сустракаліся
Кожны вечар, дарагі.
Аж да зоркі мілаваліся,
Беражочкі, берагі.
Берагі вы мае белыя,
Горкім кменам парослі.
Маладыя ды нясмелыя
Мы з табой тады былі.

◊ ◊ ◊

Зорка палыхнула за маўклівай рэчкай,
А ў царкве вясковай памірала свечка.
Быццам тая зорка, свечачка растала.
За чые правіны, я і не пытала.

# Шыпкоўскаму лесу

Зноў вяртаюся ў думках штодзённа
Да дзіцячых шчаслівых гадзін,
Каб у лесе, дзе ціха і цёмна,
Прыхінуцца да колкіх ялін.
Потым бегчы сцяжынкай знаёмай,
Назбіраць жаўтапятых лісіц
І з бярозкі, красуні вядомай,
Як калісьці, нарваць завушніц.
Завітацца ў калючы маліннік:
Хто ў дзяцінстве яго абміне!
І нарэшце дрыготкі асіннік
Каля краю сустрэне мяне…
Да цябе буду, лес мой, вяртацца
Незлічоную колькасць разоў,
А ў вялікім каханні прызнацца
Не магу — не знаходжу я слоў!

# Дзедава хата

Зажурылася дзедава хата,
Знемаглася ад доўгага сну.
Дзякуй Богу, гадочкаў багата
Адлічыла на гэту вясну.
Узняла невідушчыя вочы,
Што раз’елі ліхія дажджы,
Ды разгледзела двор свой сірочы —
Нейкі змрочны і быццам чужы.
Затраслася на момант ад жаху,
Ды ад старасці хто ж уцячэ?
І, здаецца, па чорнаму даху
Дождж слязою той хаты цячэ.
А яна ціха век дажывае,
Памаленьку бярвеннем рыпіць,
Блізкі скон так спакойна прымае.
Ды шкада: не паспела пажыць…

# Ці помніш ты, ветрык вясновы...

Ці помніш ты, ветрык вясновы,
Той поступ павольнай хады,
Як маці мне ў час вечаровы
Спявала ля ціхай вады?..

Ці помніш яе маладую,
З прывабнай, у пояс, касой,
І песню яе трапяткую,
З чуллівай жаночай слязой?..

Ці помніш ты, ветрык вясновы,
Як рукі да ранішніх зор
Сцяжком як праменьчык ружовы
Плялі абярогам узор?

Ты помніць павінен, вятрыска,
Як ноч напралёт давідна
У хаце рыпела калыска
І маці не спала адна.

Ты помніш, мой ветрык вясновы,
Той поступ павольнай хады
І спеў ля вады вечаровы,
Яе маладыя гады?..

◊ ◊ ◊

Плача, галосіць бабуля.
Дзеці сабраліся ў хату.
Ды суцяшаюць як могуць:
Лекі даюць і гарбату.

— Хопіць, спыніся, матуля!
Выпі, гаротніца, мяты!
Зёлкі бядзе дапамогуць,
Працы бо — край непачаты!

Слёзы ракою ліюцца,
Як у дні Ноя дажджынкі,
Неперастанна, бясконца —
Нашай бабулі слязінкі.

Зайчыкі ў шыбах смяюцца,
Птушкі казычуць галінкі,
Стройным узорам акенца
Лашчаць дзяўчаты-сняжынкі.

Родная стане на ганку,
Кліча, як трызніць:
«Матуля!» Тую, што й сёння кахае
Наша сівая бабуля.

Маці ёй сніцца да ранку.
Плача няспынна бабуля:
«Як мне цябе не хапае,
Мамачка, маці, матуля…»

# Цацкі

Пухкім снегам замятае сцежкі,
У сумётах хаты да акон.
Паміж шыбамі бліскучыя арэшкі
На бялюткіх коўдрах бачаць сон.
І цікуюць праз вакно Анёлы
За дзіцячай шумнай грамадой,
Дзед Мароз чырвоны і дзябёлы,
З папяровай смешнай барадой.
Спяць у скрынях зараз, дзе гарышча,
Цацкі — непатрэбнае быллё.
Павуцінне там, і вецер свішча,
І дзяцінства любае маё.

◊ ◊ ◊

Двор зарослы. Скупыя акенцы
Вінавата на сцежку глядзяць.
Адчыняю рыпучыя сенцы,
Каб хвілінку тут пастаяць.

Так знаёма рыпяць палавіцы,
Колькі я тут хадзіла разоў!
На куце абступілі паліцы
Дошкі светлых, святых абразоў.

Зразумелыя сэрцу мясціны.
Быццам бачу бабулю здаля,
Як яна ў былыя часіны
Прыстановіцца весніц каля,

Паглядзіць на жаўтлявыя кветкі,
Чарнаслівку ля плоту кране,
Кіне вокам на жыта палеткі
На зарэчнай чужой старане.

Ажываюць з дзяцінства малюнкі
Пра зусім бесклапотны сусвет.
І знікаюць трывожныя думкі
Пра атручаны здрадамі свет.

# Народная песня

Ці ўсталі калядныя зоры,
Ці купальская ночка плыве —
Песня-птушка ляціць у прасторы
І спакою душы не стае.

Жураўліным пранізвае смуткам
І глыбока кранае, да слёз.
У азёрах туманам бялюткім
Нараджаецца песенны лёс.

Лёгкім поступам песня здзіўляе,
Закалыхвае простасцю слоў.
Бы дзяцінства з табой размаўляе
Каляроваю моваю сноў.

Ў гэту песню, пачутую Богам,
Умясцілася мудрасць вякоў.
Нібы маці стаіць за парогам,
Нібы кліча вярнуцца дамоў.

◊ ◊ ◊

Як свечка плакала мая,
як светла ў небыццё знікала!
Пакуты годная нясла,
ні ў чым мяне не папракала!
Было б мне сапраўды лягчэй пачуць тут
стогны і праклёны,
Убачыць у агні вачэй грахоў азначаных
імёны…
Не адчувала б так пакут, душа б так, можа,
не канала…
Вялікай грэшніцаю тут, укленчаная,
з ёй стаяла.
Як свечка плакала мая, уголас —
не, не галасіла!
Без слоў гарачаю слязой душу маю яна
паліла!

# Ларыса Геніюш

Паліць цела смяротная сцюжа,
А яна расцвіла, як знарок,
Сярод зданяў-людзей свежай ружай —
Беларуска, Паэтка, Прарок.
Нітку памяці тчэ ільняную,
Задуменна на поле глядзіць,
Дзе не раз кветку-мак лугавую
Выпадала да сонца будзіць.
З іх пялёсткаў агонь прамяністы
Уздымаўся пад цёплай рукой,
І салоўка ўсю ноч галасісты
Мучыў сэрца нязнанай тугой.

# Вішні

Поўнач, сцюжа, вясновыя святы…

*Л. Геніюш*

Поўнач, сцюжа, вясновыя святы,
Сны і слёзы па твары як соль.
Вішні дома стаяць як дзяўчаты,
Вішням белым вядомы той боль.
Снежаць беллю па траўні пялёсткі,
Быццам вэлюм з плячэй маладой,
Пранясе вецер Поўначы хвосткі
Вэлюм-цвет праз кардон і канвой.
І не трэба паэтцы пад ватнік
Цвет хаваць ці шукаць дзе катух.
Скуль даведацца можа той здраднік,
Дзе хаваюць не зломлены дух?!
Ціхай споведдзю вернуцца вершы,
Як птушыныя зграі дамоў.
Мне сярод іх успомніцца першым —
Той, дзе цвет падаў з вішань далоў.

# Магутны Божа

Я пакланюся перад абразамі:
— Малю, Магутны, не міні народ,
Каб хлеб і далей здабывалі самі,
Каб крумкачоў не бачыць карагод,
Каб не пайсці па свеце жабракамі,
Каб доўжыўся ліцвінаў радавод…
Я пакланюся перад абразамі:
— Магутны Божа, захавай народ!

◊ ◊ ◊

Мой дзень учарашні са мной.
Ён сонейкам сеў за гарой.
Ён цень пад маёю нагой.
Ён песняй мне стаў дарагой.

Мой дзень учарашні за мной
Спяшаецца з талай вадой.
І кропляй з нябёс дажджавой
Далонь мне казыча вясной.

Мой дзень учарашні смугой
Кладзецца за ціхай ракой.
Птушынай з вышынь чарадой
Ён просіцца ў заўтра са мной.

# Гучанне сэрца

Падужэў мароз, падзьмула
Моцным сіверам зіма.
Зорка ў небе палыхнула,
Палыхнула і няма.
Але я ўсё, што трэба,
Паспяваю пажадаць,
Каб цудоўны голас неба
Сэрцам смелым адчуваць!
Зноў услед мятуць завеі,
Даганяюць халады.
Распускаюцца лілеі —
Кветкі ў шыбах без вады.
Колькі й да мяне пужалі
Непраходнасцю дарог,
Тыя потым так дрыжалі
Пад шматлікім ступам ног!
Падужэў мароз, падзьмула
Моцным сіверам зіма.
Зорка ў небе палыхнула,

Раз, другі — яе няма…
Але ўсё, у чым патрэба,
Паспяваю пажадаць,
Я хачу той голас неба
Спевам сэрца перадаць.

◊ ◊ ◊

Шчасце смелых па свеце шукае,
Закаханых у твар пазнае,
Пра кіпучых душою пытае,
З акрылёнымі песні пяе.
Там таемнай блукае сцяжынкай,
Тут маршуе па зорных шляхах.
Згаладаламу будзе скарынкай,
З падарожнікам стане пад дах.
Яно некаму ў небе смяецца,
А каму пад нагамі ляжыць.
То, бывае, у рукі даецца,
То наперад цябе пабяжыць.
Можа быць трапяткім і гуллівым,
Галаву можа ўшчэнт закружыць.
Толькі быць да жыцця трэба хцівым,
Перад Богам удзячнымі быць!

◊ ◊ ◊

Я на лёсу плынь дарма не наракаю,
Мае лёс мой мілы шчодрую душу.
Я навіны толькі добрыя чакаю,
А благія ведаць часам не хачу.
Жоўтай восенню зноў не шкадую лета,
А зімой, каб не замерзнуць у мароз,
Падзіўлюся прыгажосці белых кветак,
Што сам Бог малюе, мусіць, для дзівос.
І чаго клясці вясной глухую слоту
І падманлівы, як шэры снег, капеж?
Не дай Бог нам не пачуць кахання ноту —
Свайго сэрца адагрэтага мяцеж!

# Сыходзь, Зіма

Сыходзь, Зіма! Сыходзь, сівая!
На поўнач, злосная, ідзі!
Вясна, красуня маладая,
Стаіць ля весніц, паглядзі!
Не цешыць вока снег бялюткі,
Абрыдлі сэрцу халады.
Мне голас ручая танюткі
Чуваць з-пад талае вады.
Пралескі першых дзён вясновых
Вядуць уважліва падлік,
І па вяршалінах сасновых
Вясёлы крочыць Сакавік!

# Простыя рэчы

Я буду маліцца…

*Я. Купала*

Я буду маліцца штораз да паўночы:
Каб дзетак малых мінаваў лёс сірочы,
Каб крочылі людзі сваімі шляхамі,
Па белай зямлі не пайшлі жабракамі!
Я буду маліцца за роднае слова,
Каб годнай была беларуская мова.
Каб больш не дзялілі на белых, чырвоных,
На ясных паненак, на смердаў прыгонных.
Удзячная буду за простыя рэчы:
За яблыню ў квецені, котку на печы,
За снежань завейны, пяшчотнае сонца,
За кожны радочак, за кожнае слоўца…

# Змест

Пры афармленні вокладкі выдання выкарыстана фотаработа
*Барыса Суглоба*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Фралова** Іна Мікалаеўна
**Чакаю першы снег**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Віктар Шніп*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Андрэева*

Падпісана да друку 22.04.2011. Фармат 60x84 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,57. Ул.-выд. арк. 1,37.
Наклад 500 ас. Зак. 314.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.